**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 5.22, 20.51, 15.29;
Віцебск — 5.07, 20.46, 15.39;
Магілёў — 5.11, 20.40, 15.29;
Гомель — 5.12, 20.33, 15.21;
Гродна — 5.36, 21.07, 15.31;
Брэст — 5.45, 20.59, 15.14.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 9 мая

**ІМЯНІНЫ:**
Савы, Валянціна, Лявонція, Лізаветы, Аляксея; Людмілы, Гізэлі



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

7 МАЯ 1992 г.
чацвер, № 89 (21867)

2600ниј

## РОЗГАЛАС

## У СФЕРЫ ІНТАРЭСАЎ — МАСКВА

**Учора ў Савеце Міністраў Беларусі падпісаны Дагавор аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве на сёлетні год паміж нашай рэспублікай і Масквой.**

**Падпісанне адбылося вечарам, а зранку дэлегацыю Масквы на чале з прэм'ерам яе ўрада Ю. Лужковым прыняў беларускі прэм'ер В. Кебіч. На «кубак кавы» і на канчатковае ўзгадненне пазіцый.**

Можна адразу ж адзначыць, што пазіцыі сышліся па ўсіх закранутых у час сустрэчы пунктах і нават па такому балючаму для Беларусі, як павышэнне цэн на энерганосьбіты. Ю. Лужкоў, у прыватнасці, падкрэсліў, што Масква таксама з'яўляецца буйнейшым спажыўцом энергарэсурсаў (тут сканцэнтравана каля 20 працэнтаў прамысловага патэнцыялу Расіі) і ўсякае павышэнне цэн на іх таксама не лепшым чынам адбіваецца на эканоміцы горада.

Закраналіся ўзгодненасць паставак, абавязковасць выканання дагавораў і непасрэдна паміж Беларуссю і Масквой. Пры гэтым Ю. Лужкоў назваў тыя пазіцыі, якія іх цікавяць больш за ўсё: гэта ў першую чаргу бульба, трактары, аўтамабілі.

Вядома ж, і нашу рэспубліку цікавяць многія віды прадукцыі маскоўскіх заводаў. А яшчэ ў сферу нашых інтарэсаў уваходзяць медыцына, вядомыя маскоўскія клінікі і інстытуты, якія працуюць на ахову здароўя. У іх у апошні час доступ грамадзянам з рэспублікі амаль што закрыты — патрабуюць даволі значнай аплаты, прычым пераважна ў валюце...

Аднак варта нарэшце вылучыць асноўную думку, якая прагучала ў час сустрэчы: трэба не раз'ядноўвацца, а знаходзіць новыя формы ўзаемаадносін, будаваць іх не на партыйных разносах ды папроках, а на эканамічнай зацікаўленасці і адказнасці.

А яшчэ падкрэслівалася карысць такіх кантактаў. Прычым В. Кебіч ужо адразу зняў усякія непаразуменні, што маглі з'явіцца ў сувязі з нядаўнімі публікацыямі ў «Коммерсанте» і «Известиях», у якіх яго выказванні ў Віцебску (на сустрэчы з вайскоўцамі) выраваны з кантэксту, робяцца няправільныя вывады з яго паездкі ў Польшчу...

І яшчэ была размова пра футбол. Дакладней, і пра развіццё, разам з эканамічнымі і навукова-тэхнічнымі, —культурных і спартыўных сувязей. Пры гэтым Ю. Лужкоў амаль усур'ёз паабяцаў міжурадавы футбольны матч... Што ж, ва ўсякім выпадку, гэта не пашкодзіла б кантактам. І, напэўна, было б больш цікава, чым цяперашні футбол рэспубліканскага ўзроўню.

А ў заключэнне варта назваць наступныя лічбы, адна з якіх зафіксавана ў прэс-бюлетэні, а другая прагучала ў час сустрэчы: па стану на 1 мая спажыўцы Масквы запазычылі прадпрыемствам і арганізацыям рэспублікі толькі за харчовыя рэсурсы каля 1,4 мільярда рублёў, але Расія ў цэлым на сённяшні дзень мае баланс на сваю карысць у суме 50 мільярдаў рублёў...

**Кар. «Звязды».**

ЗАМЕСТ ПЕРШАМАЙСКАГА РЭПАРТАЖУ

## Як звычайна, а палове восьмай...

Першага мая ў Мінску, як звычайна, мітынгавалі. Хоць, увогуле, на гэты раз мітынг не быў мнагалюдным, ды і праходзіў даволі вяла. І вялікіх шэсцяў не наглядалася...

А ў нашай «вясковай глыбінцы» працавалі. Гэтак жа, як звычайна. Карацей, тут быў рабочы дзень.

Зрэшты, з гэтага факта і пачалася гутарка са старшынёй калгаса-камбіната «Барацьба» Пухавіцкага раёна народным дэпутатам Беларусі І. Макарэвічам.

— Мы ж не можам, як горад. Няма калі. Да таго ж, сёлета на велікодныя святы адпачывалі, потым былі дажджы, — зазначыў ён. — А дарагі вясковы час ідзе. Праўда, мы ўжо адсеяліся. Думаю, чысла да 10-га пасадзім бульбу, на яе і кінуты цяпер сілы. А гаспадарка ў нас немалая, буйнейшая ў Мінскай вобласці — 7.100 гектараў сельгасугоддзяў маем.

— Цяпер часта пужаюць голадам, шмат хто пацягнуўся да зямлі. На каго нам спадзявацца: на калгасы, якім многія прадказваюць незайздросны канец, на фермераў ці кожны сам на сябе?

— Як бы там ні было, кепска-бедна, але ж калгасы пакуль што кормяць. Фермерству яшчэ трэба стаць на ногі, ды і невядома, як яно прыжывецца. Напрыклад, у нашай гаспадарцы ніхто не выказаў жадання стаць фермерам. І, напэўна, прычыны тут больш глыбокія, чым здаецца на першы погляд. Пры сённяшняй сітуацыі нават нашай даволі моцнай гаспадарцы даводзіцца цяжка. Для вёскі ж цэны ўзляцелі ў сярэднім у 30 разоў, а яе прадукцыя стала даражэйшай усяго ў 5 разоў. Напрыклад, тона салетры, якую бяром у Гродна і часткова на Украіне, каштуе 6.000 рублёў, а раней каштавала 60. А без салетры вялікага ўраджаю не бачыць. Дзень работы трактара, з улікам цяперашніх расходаў на дызельнае паліва, каштуе 1.200 рублёў...

— І які ў выніку атрымліваецца сабекошт вашай прадукцыі?

— Збожжа — дзесьці рублі па тры кілаграм, бульба —два, малако — два, мяса — рублёў па трыццаць. (Дарэчы, праблема: не можам здаць на мясакамбінат жывёлу — не бяруць). Але будзем улічваць: у сабекошт нашай прадукцыі пакуль што «закладзена» старая цана на многае з таго, што набылі яшчэ раней. Скажам, на тую ж тэхніку, якой, між іншым, у нас нямала: больш як 100 трактараў, каля 100 аўтамашын, 28 збожжаўборачных камбайнаў; круціцца каля 2 тысяч электрарухавікоў...

— Аднак звернемся да людзей. Іосіф Адамавіч, якая тэндэнцыя цяпер наглядаецца: адток іх з вёскі ці прыток?

— Едуць назад. Напрыклад, да нас чалавек 15 вярнуліся з горада. Праўда, мы нямала зрабілі і робім у сацыяльных адносінах: свая пральня, дзіцячыя садкі... Свой мэблевы цэх будуем. Малое прадпрыемства ўжо вырабляе «мяккія» куткі, якія, вядома ж, — «для сябе». А ўлічым яшчэ тое, што кожны нямала чым атаварваецца ў калгасе, прычым па ніжэйшых, чым у горадзе, цэнах. Няхай не паўсюдна, але можна гаварыць менавіта аб адваротным працэсе таму, які быў раней. Адчуваю, хутка пойдуць людзі ў вёску касяком, але вось вёска не гатова будзе прыняць усіх жадаючых.

— Вашы надзеі на ўраджай і зноў жа —меркаванні наконт будучага вёскі? Будучага ўвогуле?

— Селянін заўсёды чакае добрага ўраджаю, чакаюць яго і нашы працаўнікі. Але загадваць не буду. Скажу толькі, што летась атрымалі па 38 цэнтнераў збожжа з гектара. З бульбай было горш: звычайна мелі па 250 цэнтнераў, летась жа — усяго 170. А наконт будучыні?..

Складана будаваць прагнозы. І тым не менш — вельмі трывожны ён для вёскі. Адпаведны закон аб яе прыярытэтным развіцці па сутнасці не працуе. Калгасы ж у нас у сваёй большасці слабыя. Справа ідзе да іх развалу... Дзе выхад?

Выхад няхай падказвае само жыццё, яно заўсёды мудрэйшае. А я лепш выкажу пажаданне як гаспадарнік: нам бы хоць крыху пэўнай эканамічнай стабільнасці. Для селяніна нестабільнасць пры адсутнасці цвёрдых гарантый з боку дзяржавы — больш згубная, чым для каго.

**Пасляслоўе да размовы**

Між іншым, на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі кінуліся ў вочы надзвычайная чысціня і парадак на сялянскіх падворках. Урэшце, гэткі ж ідэальны парадак быў і на калгасным мехдвары... Звяртала ўвагу і тое, як дружна сабраліся людзі (усё ж свята) на звычайны ранішні, а палове восьмага, «развод».

Значыць, яшчэ не перавялася на нашай зямлі Гаспадарлівасць, як яе ні глушылі. Вядома, шкада, што яна стала свайго роду рэдкасцю. І тым не менш, падобныя факты даюць пэўную надзею. Надзею на тое, што калі-небудзь гэта самая гаспадарлівасць — сённяшняе выключэнне — усё ж стане правілам...

**І. АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Да ўручэння вярыцельных грамат

6 мая Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Фінляндскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Тайста Вейка Талванен уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу.

Тайста Вейка Талванен нарадзіўся 15 студзеня 1940 г. у с. Пюхаселка. У 1958 г. закончыў ліцэй у Йаансуу, у 1963 г. стаў кандыдатам філасофскіх навук. З 1967 г. пачаў працаваць у міністэрстве замежных спраў у якасці перакладчыка. З 1971 па 1979 г. — перакладчык пасольства ў Маскве, затым работа ў цэнтральным апараце МЗС з 1979 г. па 1984 г. З 1984 г. — саветнік, з 1987 г. — загадчык бюро, з 1991 г. — пасол па асаблівых даручэннях, з 1 снежня 1991 г. — пасол у Літве.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

* * *

6 мая Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ван Сінда ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу.

Ван Сінда нарадзіўся ў маі 1933 года ў правінцыі Чжэцзян. У 1962 годзе закончыў Пекінскі энергетычны інстытут.

У 1962—1965 гг. быў перакладчыкам Пекінскага праектнага інстытута электраэнергетыкі пры міністэрстве электраэнергетыкі КНР. З 1965 г. з'яўляўся рэферэнтам Аддзела Савецкага Саюза і краін Усходняй Еўропы. З 1967 г. —аташэ пасольства КНР у Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. З 1969 г. — рэферэнт і намеснік загадчыка сектара Аддзела Савецкага Саюза і краін Усходняй Еўропы МЗС. З 1974 г. быў другім і першым сакратаром пасольства КНР у Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. З 1981 г. — першы сакратар Палітупраўлення МЗС, загадчык сектара Аддзела па рабоце з кітайскімі пасольствамі. З 1984 г. быў намеснікам загадчыка Аддзела Савецкага Саюза і краін Усходняй Еўропы МЗС. З 1988 года і па сакавік 1992 г. — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Чэшскай і Славацкай Федэратыўнай Рэспубліцы.

Жанаты, мае дачку.

## Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адобрыць у першым чытанні праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях», прадстаўлены Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і Камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва.

2. Даручыць Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва дапрацаваць указаны праект і прадставіць яго на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г.
г. Мінск.

***

### Аб выбранні членаў абласных судоў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членамі абласных судоў:

**Буянкову** Леанору Міхайлаўну — членам Гомельскага абласнога суда,

**Лаеўскага** Віталія Аркадзьевіча — членам Мінскага абласнога суда.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г.
г. Мінск.

***

### Аб вызваленні ШАХНОВІЧА А. А. ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вызваліць Шахновіча Аляксея Аляксеевіча ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь згодна з пададзенай заявай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г.
г. Мінск.

***

### Аб мінімальнай заработнай плаце

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 мая 1992 г. мінімальную заработную плату ў размеры 1000 рублёў у месяц.

2. Адмяніць пункт 1 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 17 сакавіка 1992 г. № 1527-XII «Аб мінімальнай заработнай плаце».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г.
г. Мінск.

## У МЭТАХ ПАДТРЫМКІ ПРАЦАЗДОЛЬНАСЦІ ЦЯПЛІЦЫ...

**Не ведаю, як каго, а мяне дык проста замілоўвае бюракратычная ўніклівасць нашых чыноўнікаў, якія прызначаюць (менавіта так: прызначаюць) вольныя цэны. Ну вось, скажам, як вам падабаецца цана на электрамясарубку: 1.395 рублёў і (звяртаю ўвагу) 97 капеек. Менавіта 97, і ні на капейку больш. На маю думку (і пэўна ж, на думку «цэнавых» чыноўнікаў), гэта павінна дэманстраваць выключную абгрунтаванасць цаны і найвышэйшы клопат аб інтарэсах пакупніка: маўляў, ніхто яго не збіраецца абдзіраць, і ніякага вам тут цэнавага бязмежжа, пра што часам ляпае прэса. Калі ласка, вось вам і мяжа: 97 капеек—і кропка. Налятай, пакупнікі танна...**

А ўвогуле, усё жыццё па сутнасці ператварылася ў суцэльную гонку за цэнамі. І ўсё роўна не паспяваем. Сёння толькі і чуеш, як наш, увогуле нетаропкі грамадзянін не паспеў нешта купіць, бо пакуль ён, па сваёй закаранелай сацыялістычнай звычцы, разважаў ды абмацваў кішэнь, яно ж, гэтае нешта, у адзін момант стала ў некалькі разоў даражэйшым, і нават зусім недасягальным. І застаецца грамадзяніну чухаць патыліцу, гледзячы на новыя цэннікі, якія, між іншым, яскрава і даходліва дэманструюць, што такое інфляцыя—учора хапіла б і на мяккі куток, і на тэлевізар у дадатак, а сёння—толькі на голую раскладушку... Не паспяваем амаль усе. Катастрафічна. Безнадзейна.

Паглядзім уважліва на некаторыя лічбы, якія характарызуюць нашы ўзаемаадносіны як спажыўцоў з дзяржавай. За сакавік зводны індэкс рознічных цэн на тавары і паслугі (згодна з афіцыяльнымі данымі) да адпаведнага месяца мінулага года склаў 825 працэнтаў, а рост грашовых даходаў—460. Цэны растуць амаль з двайным апярэджваннем. Гэта, аднак, не поўная карціна. Калі браць так званую спажывецкую карзіну, у якую ўваходзяць жыццёва неабходныя тавары і паслугі, то тут будзем мець яшчэ большы рост індэкса цэн адносна росту даходаў.

І гэта, відаць, яшчэ не ўвесь індэкс па розніцы. Параўнаем: індэкс аптовых цэн у прамысловасці таксама намнога шпарчэйшы за «рознічны»: за квартал—1.186 працэнтаў. Але ж гэта ў першую чаргу сведчыць пра штучнасць падобнага становішча, якое можна вытлумачыць пэўным стрымліваннем рознічных цэн. Аптовая цана не можа існаваць асобна ад рознічнай, усякая работа, усякі прадукт, у тым ліку і матэрыяльна-тэхнічнага прызначэння, аплачваюцца ў канчатковым выніку з кішэні спажыўца. Значыць, яшчэ не поўнасцю аплачваем?

Падзенню рэальнай заработнай платы спадарожнічае і рэзкае зніжэнне пакупніцкай здольнасці зберажэнняў. За цяперашнія зберажэнні можна ўсяго і «скупіць» што яшчэ адзін гандлёвы абарот першага квартала (прычым абарот, які фізічна амаль удвая «палягчэў» супраць леташняга). А год назад зберажэнняў, якія былі на той час, хапіла б на тры квартальныя гандлёвыя абароты. (Нагадаем—амаль удвая больш паўнаважкія). Пры гэтым не будзем браць у разлік сродкі, якія маглі пайсці на куплю каштоўных папер, а значыць, укладзены не ў Ашчадны банк, а ў іншыя банкі і акцыянерныя таварыствы. Пагрэшнасць можа тут быць невялікая, бо абсалютнай большасці насельніцтва яшчэ не «да таго».

Сёння амаль любыя паказчыкі, якія маюць дачыненне да

### ЭКАНАМІЧНЫЯ НАТАТКІ

нашых спажывецкіх узаемаадносін з дзяржавай, проста не могуць не сагравацьь душу фінансістаў, якія пастаянна заклапочаны тым, як бы выціснуць з нас «лішнюю» наяўнасць і тым самым аслабіць яе ціск на спажывецкі рынак. У свой час склаліся і пастаянна не давалі спакою непажаданыя суадносіны даходаў і расходаў грамадзян (вядома, суадносіны на карысць даходаў)? Калі ласка, яны зраўняліся, прычым расходы растуць з пагражальна апераджальным тэмпам. І спажывецкі рынак адначасова ж (!) насычаецца, растуць таварныя запасы. Усё проста: фізічны гандлёвы абарот знізіўся амаль напалавіну, а расходы растуць выключна за кошт росту цэн. У той жа час вытворчасць тавараў знізілася не так значна. Такім чынам, ёсць насычэнне. Упэўнена крочым да таварнага дастатку...

А насычэнне, дастатак—штучныя, уяўныя. Сёння многім і многім нямала ў чым даводзіцца адмаўляць, абмяжоўваць сябе. На карысць самага неабходнага. Скажам, харчавання, якое складае пераважную частку расходаў, і тым не менш далёка не лепшае. Сталі намнога менш купляць, менш ездзіць... Увогуле, эканомія — неблагая рэч, але ж дрэнна, калі такое абмежаванне выраджаецца ва ўбоства.

Сёння мы расплачваемся рэзкім зніжэннем жыццёвага ўзроўню не толькі за ранейшыя грахі, за забыццё законаў эканомікі і насаджэння як таталітарна-манапалісцкага мыслення, так і таталітарна-манапалісцкай вытворчасці, але і за сённяшняе таптанне на месцы, доўгія размовы пра рынак і няўменне ці нежаданне рэфармаваць эканоміку такім чынам, каб яна не працавала ўпустую, сама на сябе, а на чалавека. Сёння мы яшчэ ў многім аддаём даніну спрашчэнскаму сацыялістычнаму прынцыпу «ўсім пароўну», з-за нерашучасці так і не ўключылі ў дзеянне магутны прыватнаўласніцкі стымул да прыбытку і накаплення, пры нашай надзвычайнай беднасці і часам плюшкінскай эканоміі па-ранейшаму плодзім марнатраўства, наводзячы ўжо дэмакратычны камуфляж на сацыялістычна-калгасную, поўнасцю скампраметаваўшую сябе ўласнасць. Мы, як і многія да нас, чамусьці ўпэўнены: на гэты раз дапаможа. Мінулага вопыту нам мала.

Аднак пяройдзем да іншых лічбаў і фактаў.

«У асабліва складанае становішча трапілі (цікава, а хто цяпер не ў складаным? — І. Б.) прадпрыемствы абароннай прамысловасці, у якіх недастаткова сродкаў (між іншым, а калі гэтым паглынальнікам нацыянальнага багацця іх хапала? — І. Б.) для правядзення канверсіі і пераспецыялізацыі вытворчасці на выпуск тавараў народнага спажывання...

Улічваючы гэту сітуацыю,.. аказана фінансавая дапамога многім з іх, як у мінулым годзе, так і ў бягучым, у агульнай суме больш як 700 млн. рублёў. Прынята рашэнне разгледзець пытанне аб спісанні запазычанасці прадпрыемстваў па доўгатэрміновых крэдытах банка...» (А гэта, між іншым, недзе таксама амаль мільярд — І. Б.).

І спішацца. Як і раней спісвалася ў нашай сацыялістычна-калгаснай гаспадарцы. Раскладзецца на ўсіх нас да апошняй капейкі. А на каго ж яшчэ? І ўвогуле, ці прывыкаць нам аплачваць нечыя грахі з агульнай кішэні? Мы бедныя, мы ж і надзвычайныя марнатраўцы.

Аднак удакладнім сёе-тое. Ну, па-першае, пра гэткую шырокамаштабную канверсію тых жа абаронных прадпрыемстваў размову можна весці з вялікай доляй допуску. Ужо хоць бы таму, што, як засведчылі ў адным з аддзелаў Саўміна, на гэтых прадпрыемствах выпускаецца да 80 працэнтаў мірнай прадукцыі або прадукцыі двайнога прызначэння. Па-другое, калі меркаваць па адным з дакументаў Дзяржкампрома, у адпаведны і надзвычай салідны спіс «канверсуемых» трапілі (як бы мякчэй сказаць) — ну, і не зусім тыя. Па-трэцяе, у гэтым дакуменце толькі зрэдку прасілі пад канверсію, а часцей — на ўсё, на што толькі можна, нават на фонды эканамічнага стымулявання. Па-чацвёртае, многія, няйначай, і не ўцямілі да гэтага часу, што ж у нас у былой краіне, у рэспубліцы адбываецца? Давялося ў Мінфіне пагутарыць з адным з «канверсантаў». Вось што ён сказаў (амаль даслоўна): а мы і не думалі, што ўсё настолькі сур'ёзна павернецца. Ну, пашумім, пагаворым трохі, і ўсё далей будзе, як і было...

А па-пятае, хто каму павінен даваць: бюджэт гаспадарчаразліковым прадпрыемствам, арганізацыям ці яны — бюджэту?

Зрэшты, варта пазнаёміць з асобнымі прасіцелямі. Увогуле, знаёмыя ўсё твары... Гэта «Гомсельмаш», і, у прыватнасці, завод ліцця і нармалей (давялося на ім бываць гадоў пяць назад, і што больш за ўсё ўразіла — кучы металалому па ўсёй тэрыторыі, іржавеючыя жняяркі, і «мяккі», прасторны, бліскучы кабінет дырэктара). Гэта Аршанскі завод прыбораў аўтаматычнага кантролю (зрэшты, ці так ён цяпер называецца?), які спачатку пабудавалі, а потым гадалі, што на ім пачаць выпускаць, і які да таго ж сям-там ламалі пасля таго, як пабудавалі, бо, аказалася, не ўсё зрабілі як след (урэшце, а ці дакладна ведаюць цяпер, як трэба?). Гэта наша славутае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі, якое даўно ўжо гразілася запаланіць айчынны рынак найлепшымі камп'ютэрамі, але пакуль што завальвае заводскі двор. Дарэчы, наконт айчыннага рынку, відаць, усё яшчэ наперадзе. Чытаем у пісьме з аб'яднання «наверх», з якім давялося пазнаёміцца: «падрыхтаваны праект пастановы... па пратэкцыянісцкіх мерах па абароне рынку айчыннай вылічальнай тэхнікі». Вось што, аказ-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## СУСТРЭЧА З ПАСЛОМ ФРГ

**Кіраўнік беларускага ўрада Вячаслаў Кебіч 6 мая прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ФРГ у Рэспубліцы Беларусь Крауса Рэйнхарта па яго асабістай просьбе. У ходзе сустрэчы абмеркаваны пытанні, якія маюць узаемную цікавасць. У прыватнасці, асаблівая ўвага была ўдзелена эканамічнаму супрацоўніцтву, развіццю палітычных і культурных сувязей паміж нашымі краінамі ў цяперашніх умовах.**

**У сустрэчы прыняў удзел міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.**

**Служба інфармацыі СМ Рэспублікі Беларусь—БЕЛТА.**

## РАСКАЧАГАРЫЛІСЯ...

**Першы і, варта сказаць, трывожны тэлефонны званок у рэдакцыю «Звязды» ўчора раніцай быў ад жыхароў вуліцы Чарвякова г. Мінска. Яны пыталіся і аднačасова моцна абураліся: чаму такая бязглуздзіца? На вуліцы май, стаяць, як па заказу, цудоўныя, сонечныя дзянькі, тэмпература даходзіць да 25 градусаў цяпла, а ў кватэрах тым больш — не дыхнуць. Дзіва што — ацяпляльныя радыятары такія гарачыя, што да іх не дакрануцца...**

**Змучаныя такой запаркай людзі кінуліся за паратункам у сваю ЖЭС-38 з просьбай і патрабаваннем адключыць ацяпленне. Але там толькі рукамі развялі: маўляў, нічога зрабіць не можам.**

Як высветлілася, у такім запараным становішчы апынуліся не толькі жыхары вуліцы Чарвякова. Што называецца, на ўсю моц качагарылі-грэлі батарэі ў гэтыя майскія дні таксама ў дамах, што знаходзяцца па вуліцах Л. Бяды, Сурганава, Някрасава, Рафіева і многіх іншых.

Даволі дзіўна атрымліваецца. З высокіх трыбун крычым, палохаем людзей, што ў нас паліўны крызіс, што ў нашай рэспубліцы няма сваіх энергарэсурсаў, што кожную тону вугалю, нафты, мазуту даводзіцца выпрошваць у суседзяў і плаціць ім вялікія грошы: цана ж шуганула ў дзесяткі разоў. І ў той жа час з такой цяжкасцю здабытыя энергарэсурсы проста транжырым. Ці ж гэта па-гаспадарску?

Думаецца, тут увогуле няма ніякай логікі, разумнага сэнсу. Кожны школьнік ведае, што звычайна з надыходам мая заканчваецца ацяпляльны сезон. Больш таго, у гэтыя пяць святочна-выхадных дзён тысячы мінчан выехалі на свае садовыя ўчасткі, на ўлонне прыроды, і ў той жа час грэліся паўпустыя дамы. Абсурд ды і толькі!

А можа, за гэтым абсурдам нядаўна створанае Міністэрства энергетыкі рэспублікі і камунальнікі ўгледзелі нейкую сваю карыслівую мэту? Менавіта і далей запалохваць нас, наймальнікаў жылля, новым паліўна-энергетычным крызісам і на такім фоне бясконца ўзвінчваць плату за камунальныя паслугі, апраўдваючы гэта высокімі рыначнымі цэнамі на энерганосьбіты. Адным словам, увесь цяжар ад сваёй безгаспадарчасці і нераспарадчасці перакласці на нашы і без таго жабрацкія плечы.

**Іван БРАЛКА.**

## ШМАТРАЗОВЫЯ КУПОНЫ,

## якія мяркуецца ўвесці ў хуткім часе ў рэспубліцы



Яны вельмі падобныя на прывычныя грошы. Кожны разліковы білет пазначаны нумарам, што дасць магчымасць кантраляваць агульную масу. Усяго будзе восем відаў купонаў— ад 50 капеек да ста рублёў.

Фота **Валерыя АЛЯШКЕВІЧА.** (БЕЛТА).

У БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# Урад Бялецкага: 1.520.900.000 злотых на беларускую справу.

## Чым адкажа ўрад Кебіча?

**Яцэк РУЦІНЬСКІ, старшы саветнік бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы аб праблемах польскіх беларусаў**

**— З кім бы з актывістаў беларускага руху тут, на Беласточчыне, ні размаўляў — усе скардзіліся на тое, што іх арганізацыям не хапае грошай, каб плённа працаваць. Пры гэтым называлі адну фінансавую крыніцу — ваша міністэрства. Значыць, і нараканні трэба адрасаваць вам?**

— Сапраўды, некалі на патрэбы нацыянальных меншасцей дзяржава выдаткоўвала намнога больш грошай, чым цяпер. Аплачвалі памяшканні, работу штатных супрацоўнікаў... Тады над усімі гэтымі структурамі апекавалася Міністэрства ўнутраных спраў, — яно моцна трымала лейцы, не дазваляючы нацыянальным меншасцям мець больш як адну арганізацыю. У беларусаў гэта было БГКТ — Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

Але вось ужо гады тры, як МУС займаецца тым, чым павінна займацца, а справы нацыянальных меншасцей перайшлі да нас, у спецыяльна створанае бюро Міністэрства культуры і мастацтва.

Ці ёсць падставы скардзіцца на тое, што наша дапамога нацыянальным арганізацыям не такая шчодрая, як ім хацелася б? Безумоўна. Але пры гэтым трэба мець на ўвазе, што вельмі напружаная сітуацыя з бюджэтам у цэлым у Польшчы. Даводзіцца эканоміць сродкі.

**— Раней усе дзяржаўныя датацыі даставаліся БГКТ. Цяпер беларускіх арганізацый у Польшчы, бадай, паўтузіна. Як вы дзеліце паміж імі тыя сціплыя грошы, якія выдаткоўвае дзяржава?**

— Ну, сродкі гэтыя назваць сціплымі можна толькі ўмоўна: летась польскія беларусы атрымалі больш як паўтара мільярда злотых. А падзяліць іх, сапраўды, няпроста. Яшчэ ў 1990 годзе вырашана, што фінансавацца ў далейшым будуць толькі канкрэтныя культурныя мерапрыемствы, а таксама выдавецкая дзейнасць, — інакш мільёны пойдуць на вецер.

Калі казаць пра мінулы год, то львіная доля ўсіх выдзеленых грошай трапіла да БГКТ, — 1 мільярд 287 мільёнаў. Праўда, у іх і расходы найбольшыя: адна толькі «Ніва» абышлася летась у 587 мільёнаў, на паўмільярда «пацягнула» будаўніцтва Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы.

**— Такое нераўнамернае размеркаванне не вельмі падабаецца іншым беларускім арганізацыям?**

— Так, усе астатнія атрымалі значна менш. Газета «Czasopis» — 75 мільёнаў, літаб'яднанне «Белавежа» — 100 мільёнаў (на выданне кнігі апавяданняў «Гасцінец» і публіцыстычнага зборніка «Віры»), Праваслаўнае Брацтва — 50 мільёнаў (на выданне беларускамоўнага ўкладыша ў «Tygodniku Podlaskim — Prawoslawie») і г. д.

Праўда, у далейшым прапорцыі гэтай дапамогі будуць хутчэй за ўсё мяняцца. Ужо цяпер бачна, што «Czasopis» значна выйграе ў параўнанні з «Нівай»: у яго шырэйшая аўдыторыя, больш разнастайныя матэрыялы. Яго робіць малады энергічны калектыў здольных журналістаў.

Увогуле, калі арганізацыя актыўна працуе, праводзіць шмат мерапрыемстваў — у яе ёсць усе шанцы атрымаць большую падтрымку з боку дзяржавы. Бо фінансаванне беларускай меншасці ў Польшчы сёлета ў параўнанні з мінулым годам наўрад ці зменшыцца.

**— У міністэрстве акрамя спраў беларусаў вы займаецеся яшчэ і праблемамі польскіх літоўцаў. Гэтыя праблемы падобныя ці ўсё ж адчуваюцца адрозненні?**

— Літоўцаў у Польшчы значна менш чым беларусаў — каля 30 тысяч. Але яны намнога больш згуртаваныя. Асабліва гэта стала адчувальна пасля выхаду Літвы з Савецкага Саюза. У адрозненне ад беларусаў, літоўцы маюць шэсць школ (пяць пачатковых і адну сярэднюю), дзе выкладанне вядзецца выключна на літоўскай мове. Акрамя таго, яны адкрываюць і новыя літоўскія класы ў польскіх школах.

Літоўскі штомесячнік «Аўшра» нядаўна пачаў выдавацца два разы на тыдзень.

**— Чым вы растлумачваеце гэтыя адрозненні, параўнанне якіх яўна не на карысць беларусаў?**

— Сярод прычын няма толькі адной — перашкод з боку польскага ўрада. Мы з аднолькавай увагай ставімся да патрэб усіх нацыянальных меншасцей. Відавочна, беларусы значна больш схільныя да асіміляцыі, чым літоўцы, — часткова гэта растлумачваецца падабенствам моў, звычаяў, культуры ўвогуле.

**— І ўсё ж культурнае жыццё беларусаў Беласточчыны не назавеш аднастайным і малацікавым. Мяркуючы па пераліку мінулагодніх імпрэз — з гэтым у нашых суайчыннікаў усё ў парадку, — было праведзена мноства фестываляў, канцэртаў, сустрэч, конкурсаў...**

— Гэта сапраўды так. І мінулы год — не выключэнне. Сёлета ў блізкім часе ў Гайнаўцы беларусы правядуць Фестываль царкоўнай музыкі, які, мяркуецца, будзе нават міжнародным. Для правядзення фестывалю мы выдаткоўваем 150 мільёнаў злотых.

**— Дарэчы, пра Гайнаўку. На беларускі музей, што будуецца там, дзяржава таксама дае грошы?**

— Так, хоць гэтага яўна недастаткова. Музей у Гайнаўцы задуманы цудоўны, — вялікі, з мноствам экспазіцый — сапраўдны цэнтр нацыянальнай культуры. Шкада толькі, што месцам для яго пабудовы выбрана мястэчка, а не, напрыклад, Беласток, дзе таксама жыве шмат беларусаў. Баюся, што ў Гайнаўцы такая вялікая будыніна часта будзе пуставаць.

Зрэшты — гэта клопат выключна беларусаў і мы ніякім чынам не хочам умешвацца ў іх ініцыятыву.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО, спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

**г. Беласток.**

ВЫ ПРАСІЛІ ДАПАМОГІ

# ЧАЛАВЕК ВЫБІРАЕ, ШТО ЯМУ ТРЭБА...

**У наш час масавага дэфіцыту нярэдка здараюцца даволі дзіўныя сітуацыі. Скажам, не адзін год стаіць чалавек у чарзе за нейкім таварам павышанага попыту і ніяк набыць не можа: няма яго ў продажы, і ўсё тут. Нарэшце гэты дэфіцыт паступае ў магазін, і, здавалася б, спажыўцу-чаргавіку толькі радавацца, што цяпер ён ужо абавязкова прыдбае так неабходную яму рэч. Але ён ад яе адмаўляецца. Чаму? Можа, яна раптам стала яму зусім непатрэбнай? Не, справа тут не ў гэтым. А ў чым?**

У падобнае становішча трапіў і жыхар г. Масты М. Грыц. Ён паскардзіўся ў «Звязду», што яшчэ ў 1990 годзе стаў на чаргу на швейную машынку, але своечасова набыць не змог: несумленныя работнікі гандлю прадалі яе невядома каму.

Старшыня раённага Савета народных дэпутатаў **А. Апалонік** у адказе, дасланым у рэдакцыю, растлумачыў, што гэта не так. «Тавары павышанага попыту, — піша ён, — гарвыканком з 1989 года размяркоўвае па працоўных калектывах. З мэтай урэгулявання парадку продажу тавараў дэпутацкай групай гарадскога Савета была створана чарга на атаварванне выдадзеных на прадпрыемствах талонаў».

М. Грыц у спісе значыўся пад № 11. Пры паступленні трох швейных машынак па цане 103 рублі яму была прапанавана адна з іх. Але аўтар пісьма адмовіўся: яна не адпавядала яго патрабаванням. (Зазначым, што фонды гарсавету на гэты тавар выдзяляюцца ў агульнай колькасці, а не па асобных марках.) Сапраўды, перад гэтым швейныя машыны па цане 250 і 282 рублі былі прададзены грамадзянам, якія стаялі ў чарзе наперадзе.

Зразумела, не лепшым чынам абышліся з пакупніком і работнікі магазіна. Яны проста выкраслілі М. Грыца са спіса, як занадта пераборлівага. Праўда, зрабілі гэта памылкова, і справядлівасць была адноўлена. Строга па чарзе ў лютым 1991 года М. Грыц набыў швейную машыну патрэбнай яму маркі. Уся справа ў тым, што гэты тавар паступіў па свабодных ужо цэнах. І купляць ці не купляць яго па новаму, больш высокаму кошту, вырашаў сам спажывец. Таму, як сцвярджае А. Апалонік, патрабаванне зараз вярнуць розніцу паміж цэнамі не мае пад сабой падставы.

Што тут можна сказаць? Вядома, вельмі прыкра, што з-за разбалансаванасці эканомікі, хаатычнай пастаўкі (ці ўвогуле непастаўкі) неабходных нам тавараў церпім перш-наперш мы, радавыя пакупнікі. Вельмі часта нам прапаноўваюць і падсоўваюць не тое, што патрэбна, а тое, што ёсць у наяўнасці. І ўсё ж, як бы там ні было, кожны з нас пакідае за сабой права набываць тое, што яму неабходна. Безумоўна, у выпадку, калі і без таго высокія цэны скачуць, як неаб'езджаныя рысакі, за адну і тую ж рэч нам даводзіцца выкладваць са сваёй кішэні ў шмат разоў больш «драўляных».

З такой горкай рэальнасцю сутыкнуўся таксама і інвалід І групы Б. Курэпін з г. Клімавічы. У лісце ў рэдакцыю ён скардзіўся, што ніяк не мог купіць халадзільнік да павышэння цэн.

«У адносінах набыцця халадзільніка паведамляем, — гаворыцца ў рэагаванні намесніка старшыні Клімавіцкага райвыканкома **І. Баршчова**, — што Курэпін Б. І. на льготнай чарзе не стаяў. Але 3.12.1991 года яму ў парадку выключэння па хадайніцтву райсабеса, улічваючы тое, што ён інвалід І групы агульнага захворвання, камісіяй гарвыканкома па размеркаванню тавараў халадзільнік быў выдзелены».

Дык у чым тады справа? А ў тым, што Барыс Іосіфавіч халадзільнік не атрымаў і не паставіў аб гэтым у вядомасць старшыню гарадскога Савета. Вось як! І, згодна з Палажэннем аб правілах гандлю, ён быў рэалізаваны наступнаму па чарзе пакупніку.

Прытупаў інвалід у гарсавет у канцы снежня, а патрэбнага апарата і след прастыў.

Але, як кажуць, добра тое, што добра заканчваецца. Сёлета чалавеку ўсё ж быў выдзелены халадзільнік «Мінск-16». Праўда, за яго ўжо давялося выкласці 8.300 рублёў.

Затое з набыццём аўтамашыны — цёмны лес. З красавіка 1988 года Б. Курэпін стаіць у агульнай чарзе пад нумарам 74 на «Масквіч». Вось і папрасіў перавесці яго ў спіс ільготнікаў. Аднак, паводле Палажэння, такое права маюць толькі інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай, воіны-інтэрнацыяналісты. А. Б. Курэпіну, хоць ён таксама інвалід І групы, як суцяшае яго намеснік старшыні райвыканкома, «аўтамашына будзе выдзелена згодна з чаргой». Што ж, застаецца адно: спадзявацца і чакаць. А яшчэ збіраць мяшок грошай, калі яны ёсць у хворага чалавека.

Пісьмо, якое даслала Галіна Сяргееўна Палтарацкая з в. Курглы Пастаўскага раёна, з іншай сферы. Але аўтар яго таксама выказвае тое, што яму не падабаецца, з чым не хоча пагадзіцца. У прыватнасці, гаворка ідзе аб тым, што на ферме, дзе загадчыцай А. Бурава, брудна, бываюць выпадкі крадзяжу малака і кармоў.

А вось што паведаміў рэдакцыі першы намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Пастаўскага райвыканкома **І. Януковіч:**

— Ферма, дзе працуе загадчыцай Бурава А. Н., знаходзіцца ў здавальняючым стане. Факты крадзяжу малака і кармоў з фермы аб'ектыўна нічым не пацвярджаюцца.

І абгрунтоўваецца гэта тым, што ад Г. Палтарацкай аб такіх фактах не паступалі заявы ні ў праўленне калгаса, ні ў рэвізійную камісію.

Затое аўтар пісьма ахарактарызавана не з лепшага боку. А менавіта, што летась з мая па верасень яна працавала даяркай, але затым без рашэння праўлення калгаса перастала даіць замацаваную за ёй групу кароў. Праўда, па просьбе загадчыцы фермы потым «выконвала абавязкі начнога вартаўніка».

А ўся справа, як вынікае з адказу, заключаецца ў тым, што паміж А. Буравай і Г. Палтарацкай не склаліся нармальныя рабочыя ўзаемаадносіны. І каб развесці непрымірымых, праўленне гаспадаркі гатова апошняй прадаставіць іншую работу, у тым ліку і даяркай на іншай ферме. Вось толькі ўзнікае пытанне: ці параіліся аб гэтым з той жа Г. Палтарацкай, ці згодна яна з такім рашэннем?

Калі аналізуеш гэтыя пісьмы і адказы на іх, то сам сабой напрошваецца вывад: да якога часу за нас будуць вырашаць: што нам выдзеліць, што прадаць, дзе працаваць, якія выказваць думкі? На мой погляд, няхай чалавек сам выбірае, што яму патрэбна і больш за ўсё падыходзіць. Ці ж не так?

**Іван БРАЛКА, загадчык аддзела пісьмаў «Звязды».**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# «Цесна ля карыта»

**Артыкул пад такім загалоўкам быў надрукаваны ў «Звяздзе» 31 ліпеня мінулага года. Нагадаем: размова ў ім ішла аб шматлікіх парушэннях сацыяльнай справядлівасці пры размеркаванні вострадэфіцытных тавараў з боку кіраўніцтва Гродзенскага райвыканкома. Адзін з нашых чытачоў паспрабаваў дабіцца, каб гэтыя кіраўнікі панеслі адказнасць за свае дзеянні. І вось што ў яго атрымалася.**

13 жніўня я накіраваў заяву ў тадышні абком КПБ, у якой настойваў на тым, што «публікацыя павінна атрымаць шырокую агалоску». Думаецца, работнікі абкома адразу кінуліся наводзіць парадак? Нічога падобнага!

29 верасня мы разам з юрысконсультам Скідальскага камбіната будматэрыялаў М. Сяўко звярнуліся ў абласны Савет народных дэпутатаў з заявай наступнага зместу: «...Нас здзіўляе, што аблвыканком не рэагуе на факты злоўжывання службовым становішчам кіруючых асоб раёна, што па сёння публікацыя газеты не разгледжана і ёй не дадзена аб'ектыўная ацэнка... Абураюць нас і дзеянні намесніка старшыні райвыканкома В. Бірукова, які на старонках раённай газеты «Сельская новь» пусціў пыл у вочы чытачам, каб абяліць афёры вакол дэфіцыту і абвінаваціць аўтара артыкула Б. Пракопчыка ў прадузятасці. Але ж факты—упартая рэч, тым больш калі яны грунтуюцца на матэрыялах дзяржгандальінспекцыі. Трэба В. Бірукову набрацца смеласці і паглядзець праўдзе ў вочы. І растлумачыць людзям, чаму за кошт раённых фондаў дэфіцыт набываюць невядома якія людзі. Хто яны, гэтыя Р. Валюлік, І. Шока і іншыя? Чым яны вызначыліся перад раёнам?.. Просім склікаць мітынг або агульнагарадскі сход у Скідалі, і ініцыятарам гэтага павінен стаць аблвыканком, паколькі справа датычыць раённага кіраўніцтва. Такая ініцыятыва аблвыканкома пакажа, на чыім ён баку».

Аднак канкрэтных дзеянняў з боку аблвыканкома мы так і не дачакаліся. Не атрымалі і адказу на нашу заяву. Каб даведацца аб яе лёсе, у студзені сёлетняга года звярнуліся ў абласную пракуратуру. І толькі пасля гэтага атрымалі адказ з аблвыканкома за подпісам намесніка старшыні камітэта па прамысловасці, гандлі і паслугах М. Галая. Інакш як адпіскай яго і не назавеш, паколькі ў гэтай паперы ні слова няма аб тым, якія меры аблвыканком прыняў да тых «слуг народа», якія зганьбілі гэта званне. З адпіскі М. Галая вынікае, што большасць фактаў артыкула «Цесна ля карыта» не адпавядае рэчаіснасці. Атрымліваецца, што аўтар артыкула Б. Пракопчык абылгаў сумленных людзей? Але ў такім выпадку чаму зняважаныя не падалі на аўтара ў суд, каб абараніць сваю годнасць? Ды таму, напэўна, што прыведзеныя ў публікацыі факты грунтуюцца на матэрыялах дзяржгандальінспекцыі і абвергнуць іх нельга. Тым не менш у адказе М. Галая прагледжваецца жаданне выгарадзіць раённых чыноўнікаў, якія злоўжываюць уладай. Няхай сабе, маўляў, гэтыя ветэраны вайны і працы абураюцца чым хочуць і колькі хочуць, нам, уладзе, ад гэтага ні холадна, ні горача...

Не выпадкова многія выказваюцца за правядзенне датэрміновых выбараў на ўсіх узроўнях улады ў рэспубліцы. Улада павінна быць сумленнай. Інакш народу лепшага не ўбачыць.

**І. БАРЫСАЎ, член Гродзенскага раённага савета ветэранаў вайны і працы.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Вось так уладарныя структуры ахоўваюць свой «аўтарытэт». Зрэшты, можна як бы не заўважыць газетны артыкул і нават паспрабаваць абвергнуць відавочныя факты, можна адмоўчвацца і адпісвацца, аднак нельга перашкодзіць фарміраванню грамадскай думкі аб уладзе.**

**Хіба ж гэтая думка не каштоўней за ўвесь несправядліва размеркаваны дэфіцыт?**



**АМАЛЬ ТЫСЯЧУ ГЕКТАРАЎ адвялі сёлета пад веснавую сяўбу ў калгасе «Герой працы» Маладзечанскага раёна. Тэрміны пасадкі збожжавых і караняплодаў розныя, і няўстойлівае веснавое надвор'е прымушае механізатараў берагчы кожную хвіліну. На розных работах заняты Дзмітрый ЛОБАЧ, Андрэй АРТЫНСКІ, Васіль ДЗЬМУХОЎСКІ: на энерганасычаных трактарах яны апрацоўваюць глебу, уносяць угнаенні, вядуць сяўбу. Кожны з іх выконвае даручаную справу «на выдатна».**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

*Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых

У сувязі са скарачэннем Узброеных Сіл на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, неабходнасцю сацыяльнай абароны ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў да прыняцця Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што пры звальненні ваеннаслужачых з Узброеных Сіл у запас пенсіі ім назначаюцца за выслугу 20 гадоў у размеры 55 працэнтаў ад грашовага забеспячэння, а звольненым у адстаўку — 60 працэнтаў, за кожны год выслугі звыш 20 гадоў — 3 працэнты, але ўсяго не больш 75 працэнтаў грашовага забеспячэння.

Ваеннаслужачым, якія маюць выслугу ад 15 да 20 гадоў і звольнены па скарачэнню штатаў у сувязі са скарачэннем Узброеных Сіл рэспублікі, пенсія назначаецца ў размеры 40 працэнтаў ад грашовага забеспячэння і за кожны год выслугі звыш 15 гадоў — 3 працэнты.

Пенсіі пералічваюцца ў выпадку павелічэння размераў грашовага забеспячэння ваеннаслужачым.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць рэалізацыю гэтай Пастановы.

3. Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г. г. Мінск.

## Аб захаванні і развіцці сеткі дзіцячых дашкольных устаноў

З мэтай забеспячэння патрэб насельніцтва ў дзіцячых дашкольных установах незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці, сацыяльнай гарантыі і аховы інтарэсаў сем'яў, якія маюць дзяцей дашкольнага ўзросту, захавання і развіцця сеткі дзіцячых дашкольных устаноў у рэспубліцы Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Забараніць на перыяд да стабілізацыі эканомікі рэспублікі ліквідацыю, рэарганізацыю, продаж, перадачу, абмен і здачу ў арэнду іншым прадпрыемствам і арганізацыям дашкольных устаноў незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці, скарачэнне аб'ёмаў аказваемых імі паслуг без дазволу адпаведнага мясцовага Савета народных дэпутатаў.

2. Прызнаць мэтазгодным стварэнне з 1 мая 1992 года пазабюджэтных фондаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў для фінансавання расходаў на ўтрыманне ведамасных дашкольных устаноў.

Мясцовым Саветам народных дэпутатаў для фарміравання даходнай часткі названых фондаў увесці мясцовыя мэтавыя зборы ў працэнтных адносінах да фонду аплаты працы з аднясеннем на сабекошт вытворчасці, работ, паслуг з усіх гаспадарчаразліковых прадпрыемстваў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і падпарадкаванасці, а таксама вызначыць перыядычнасць і тэрміны іх пералічэння.

Размер мэтавых збораў вызначаецца зыходзячы з патрэб у сродках на ўтрыманне і развіццё дашкольных устаноў.

3. Устанавіць, што сумы, якія падлягаюць пералічэнню ў пазабюджэтныя фонды, у выпадку іх несвоечасовага пералічэння плацельшчыкамі спаганяюцца фінансавымі органамі ў абавязковым парадку з налічэннем пені ў размеры 0,2 працэнта за кожны дзень пратэрміноўкі ад несвоечасова пералічанай сумы.

4. Устанавіць, што сумы затрат, якія нясуць прадпрыемствы і арганізацыі па ўтрыманню дзіцячых дашкольных устаноў, што знаходзяцца на іх балансе ці арэндуюцца імі ў іншых прадпрыемствах і арганізацыях, залічваюцца ў мэтавыя зборы, якія падлягаюць пералічэнню ў пазабюджэтныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

У выпадку, калі расходы прадпрыемства, установы, арганізацыі, што выкарыстоўваюцца на ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў, перавышаюць вызначаныя зборы, розніца кампенсуецца прадпрыемству мясцовым Саветам народных дэпутатаў з пазабюджэтнага фонду.

5. Устанавіць з 1 мая 1992 года плату за адно наведванне дзіцём дзіцячых ясляў, дзіцячага сада ці ясляў-сада (групы) незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці і месца работы (вучобы) бацькоў ці асоб, якія іх замяняюць, у размеры 70 працэнтаў грашовай нормы расходаў на харчаванне дзяцей у гэтых установах за дзень.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 красавіка 1992 г. г. Мінск.

# Абудзіць годнасць народа

**Перад беларускім грамадствам зараз стаіць гістарычная задача пабудовы незалежнай дзяржавы з моцнай эканомікай, маральна і фізічна здаровым насельніцтвам. Для выканання гэтай задачы нам патрэбна кансалідуючая сістэма маральных каштоўнасцей, якая панавала б у грамадстве. Патрэбна таксама адпаведная ёй самасвядомасць асноўнай большасці нашага народа. Без такой сістэмы нам ніколі не ўдасца абудзіць нашы творчыя сілы для актыўнай стваральнай працы. Без яе мы можам не здолець нават захаваць сваю дзяржаву і грамадзянскі мір у ёй, выжыць як нацыя.**

Зараз ідзе стыхійны, амаль інстынктыўны пошук новых каштоўнасцей, бо тая іх сістэма, якая існавала яшчэ 6—7 гадоў таму, аказалася разбуранай дашчэнту. Раней большасць насельніцтва ўсведамляла сябе «савецкімі людзьмі», а сістэма іх маральных нормаў грунтавалася, у асноўным, на камуністычнай ідэалогіі. Праўда, у апошнія дзесяцігоддзі гэта самасвядомасць пачала паступова «размывацца» з-за няспраўджаных спадзяванняў на лепшае жыццё і патоку інфармацыі з-за мяжы. Менавіта гэта, а не нейкія асабістыя якасці Брэжнева і яго акружэння было асноўнай прычынай «застою». Гарбачоў з самымі лепшымі намерамі абвясціў «галоснасць», і цяпер ужо паток уласнай аб'ектыўнай інфармацыі аб нашым рэальным стане канчаткова разбурыў, «змыў» тую грамадскую самасвядомасць, тую сістэму нормаў і каштоўнасцей, на якіх раней трымалася савецкае грамадства.

І з чым жа мы засталіся? Якая самасвядомасць можа кансалідаваць, прадухіліць ад крызісаў цяпер ужо незалежную Беларусь?

Камунізм як пануючая ідэалогія можа працяглы час панаваць толькі ў закрытым грамадстве, папярэдне знішчыўшы ўсе канкурыруючыя ідэалогіі і сістэмы маральных каштоўнасцей. Так у нас амаль была знішчана хрысціянская мараль, якая стагоддзямі забяспечвала існаванне грамадства і сацыяльны кантроль у ім. Былі знішчаны нават тыя маленькія парасткі дэмакратыі і яе каштоўнасцей, якія здолелі прарасці на вытаптанай расійскім царызмам глебе. Недастатковы і культурны ўзровень народа. Каб аднавіць, ладняць усё гэта, патрэбен вялікі час. Здолее ацалець ці хутка падняцца пасля такога пекла толькі ідэя, «запісаная» на ўзроўні геннай памяці і звязаная з родавымі пачуццямі, такімі, як любоў да бацькоў, да дзяцей, да зямлі, дзе нарадзіўся і вырас. Таму нездарма ў любой краіне, дзе пацярпеў крах камунізм, адразу пачынаецца рост нацыянальнай самасвядомасці.

Такі працэс, пакуль што марудна, ідзе і ў нас. Што ж рабіць у гэтай сітуацыі дзяржаве і грамадству? Спрабаваць стрымліваць гэты працэс, альбо стымуляваць і накіроўваць яго? Аргументы праціўнікаў росту нацыянальнай самасвядомасці і патрыятызму ў асноўным зводзяцца да наступнага. Па-першае, маўляў, гэта супярэчыць дэмакратыі. Але такое проціпастаўленне здаецца штучным. Амерыканцы, незалежна ад іх этнічнага паходжання, вялікія патрыёты сваёй дзяржавы і, адначасова, ледзь не самы дэмакратычны народ у свеце. Дэмакратыя і нацыянальная самасвядомасць зусім не супярэчлівыя рэчы. На наш погляд, прычына такога проціпастаўлення ў тым, што яго прапагандысты альбо адчуваюць настальгію па «Вялікай Расіі» (у іншай транскрыпцыі — СССР), якую «расцягнулі сепаратысты», альбо самі страцілі нацыянальнае пачуццё і ім ніякавата ва ўмовах нацыянальнага ўздыму.

Значна большай увагі заслугоўвае другі аргумент праціўнікаў росту нацыянальнай самасвядомасці, звязаны з магчымасцю міжнацыянальнай напружанасці ў грамадстве. Так, такая небяспека існуе. Але яе верагоднасць залежыць ад традыцый народа, яго псіхалогіі, ступені талерантнасці. Думаецца, што ніхто не здолее кінуць камень у беларусаў за іх недастатковую цярпімасць (талерантнасць) да людзей іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, многае залежыць і ад палітыкі дзяржавы. Калі яна спрабуе стрымліваць натуральны працэс нацыянальнага ўздыму, то гэта можа прывесці да яго скрыўлення і росту міжнацыянальных супярэчнасцей. Значную ролю адыгрываюць і паводзіны нацыянальных меншасцей, іх здольнасць зразумець аб'ектыўнасць працэсу нацыянальнага абуджэння і паставіцца да яго з павагай.

Дзяржава павінна стымуляваць і накіроўваць працэс росту нацыянальнай самасвядомасці і дзяржаўнага патрыятызму, бо іншага сродку для кансалідацыі грамадства, іншай масавай станоўчай самасвядомасці ў нас зараз проста не можа быць. Як жа дзяржава можа ўплываць на гэты працэс? Па-першае, шляхам папулярызацыі славутай беларускай гісторыі, найперш — ваеннай гісторыі. Менавіта гістарычная памяць, гонар за славутыя дзеі продкаў з'яўляюцца асновай нацыянальнай годнасці і самасвядомасці. Па-другое, павінна весціся прапаганда і ўхваленне такіх рысаў нацыянальнага беларускага характару, як талерантнасць, павага да людзей іншых нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Па-трэцяе, неабходна адначасова з папулярызацыяй беларускай гісторыі прапагандаваць удзел прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей у абароне Беларусі, іх уклад у пабудову беларускай дзяржавы. Трэба падкрэсліваць тую думку, што патрыётам Беларусі павінен быць кожны яе грамадзянін, незалежна ад яго нацыянальнасці.

Таму патрыятычнае выхаванне грамадства можа быць адным з накірункаў дзейнасці Антыкрызіснага камітэта, створанага ў рэспубліцы. Тым больш, што гэты камітэт аб'ядноўвае ў сваім саставе як прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, якія могуць уплываць на адукацыю, культуру і сродкі масавай інфармацыі, так і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, якія здольны выкарыстаць магчымасці такога ўплыву для правядзення патрыятычнага выхавання нашага народа.

Для фінансавання гэтай працы было б мэтазгодна ўтварыць фонд гісторыка - патрыятычнага выхавання, распараджальнікамі якога маглі б быць як дзяржаўныя, так і грамадскія арганізацыі. Дзейнасць такога фонду, калі ён будзе створаны, мэтазгодна было б засяродзіць на фінансаванні мастацкіх твораў (перш за ўсё — мастацкіх фільмаў) на тэмы найбольш славутых перыядаў беларускай гісторыі, падручнікаў па несфальсіфікаванай гісторыі Беларусі, ваенна - гістарычных музеяў, часопісаў і г. д.

У навейшай гісторыі Еўропы ёсць прыклады, калі краіны з разбуранай эканомікай, з прыніжанай нацыянальнай годнасцю за кароткі тэрмін выходзілі з крызісу. У такім становішчы апынулася Францыя пасля другой сусветнай вайны.

У краіне панавала інфляцыя, пакланенне перад усім амерыканскім, а ўрады мяняліся адзін за другім, усё большую вагу набывалі радыкальныя палітычныя сілы. І тады генерал дэ Голь пачаў ездзіць па краіне і звяртацца з такімі словамі да простага народа: «Вы — вялікі народ, вы — французы!» З яго здзекаваліся інтэлектуалы — ён кажа банальнасці! — а дэ Голь настойліва працягваў сваю працу. Ён сваімі словамі знайшоў шлях да сэрца хатняй гаспадыні і мястэчковага святара, да сэрца рабочага і фермера, салдата і інжынера — усе яны аб'ядналіся ў сваіх думках і жаданнях: «Мы — французскі народ, і мы не будзем залежаць ні ад кога!»

У кароткі тэрмін Францыя выйшла з крызісу і ўпэўнена заняла сваё месца сярод іншых вялікіх дзяржаў.

Мы знаходзімся ў цяжкім становішчы. Эканоміка развальваецца, расце карупцыя, грамадства дэзарыентавана. Усё бліжэй да нашых межаў пачынаюць палаць узброеныя канфлікты. У людзей апускаюцца рукі. Наш абавязак абудзіць годнасць свайго народа, яго энергію і творчыя сілы. Дзеля гэтага нам трэба сказаць яму, хто ён такі, які гістарычны шлях ён адолеў і што ён можа. Тым больш, што народу, які ў сярэднія вякі пабудаваў буйнейшую ў Еўропе дзяржаву, ёсць што сказаць пра яго здольнасці і магчымасці.

**Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў».**

